ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 93(5275)
Субота,
18 жніўня
2001 года

Кошт у розніцу — 80 руб.



14 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды лепшым работнікам народнай гаспадаркі. Сярод узнагароджаных ёсць і работнікі сістэмы адукацыі. Майстар вытворчага навучання ПТВ № 117 Мінска Валянцін Шаляпін узнагароджаны ордэнам Пашаны, дацэнт кафедры экалогіі Беларускай політэхнічнай акадэміі Ірына Трусава — медалём "За працоўныя заслугі".

НА ЗДЫМКУ: Прэзідэнт віншуе Валянціна Шаляпіна.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.**

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Хто ставіць на духоўнасць — ставіць на перамогу

Кожны раз з цікавасцю чытаю ў "Настаўніцкай газеце" рубрыку "Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь"

Радуецца сэрца, што многія настаўнікі неабыякавыя да праблем школы, да праблем выхавання маладога пакалення. Настаўнікі знаходзяцца ў творчым пошуку, адчуваюць сваю адказнасць за нашу будучыню, распрацоўваюць свае адукацыйныя праекты. Адны пішуць пра перагружанасць вучняў, другія бядуюць, што адукацыя бедная і ў школе мала тэхнічных сродкаў, трэція не згодны, што выхаваўчы працэс узвалілі на школу. Вера Трафімец прапануе, каб у краіне быў аб'яўлены культ сям'і, таму што сям'я забылася на сваю асноўную функцыю — выхаванне дзяцей.

І тут я з ёю поўнасцю згодна. Многія бацькі не цікавяцца вучобай і паводзінамі сваіх дзяцей, рэдка ходзяць на бацькоўскія сходы, а ёсць такія, што за 11 гадоў самі ні разу не прыйшлі ў школу, нават па выкліку дырэкцыі з'яўляюцца не заўсёды.

А настаўніка лічаць добрым, калі ён не ставіць двоек. Многія бацькі ў штыкі сустракаюць заўвагі класных кіраўнікоў пра сваіх вучняў. Неаднойчы прыходзіцца чуць такія словы: "Мой сын цэлы дзень дома штосьці вучыць!" Вось менавіта — штосьці! "А, можа, ён проста чытае кнігу? Многіх цікавіць толькі адзнака, а не якасць ведаў. Таму і нездавальняючыя адзнакі на ўступных экзаменах, а потым абвінавачванні, што паступіць сёння можна толькі па блату, толькі за грошы! А я чамусьці ў гэта не веру. Я сама паступала і вучылася, і заўсёды ішла на экзамен, ведаючы адказ на кожны білет.

А хто сказаў, што вучыцца лёгка! Мне падабаецца выказванне дарэктара мінскай політэхнічнай гімназіі Казіміра Фарыно, які сказаў, што "навучанне павінна быць цяжкім, але пасільным і цікавым для дзяцей". Дзеці павінны ўсведамляць, што хлеб надзённы здабываецца ў поце.

Зараз бясконца пішуць аб правах дзіцяці, якія яны добра засвоілі, але нідзе не гаворыцца пра абавязкі дзяцей. А я лічу, што дзеці павінны ведаць у першую чаргу свае абавязкі, адным з якіх з'яўляецца абавязак добрасумленна адносіцца да вучобы. Гэта павінны памятаць як вучні, так і бацькі.

Добрасумленнасць і, дарэчы, да любой справы, павінна з'яўляцца адной з асноўных якасцей чалавека. За ўсе гады працы ў школе, а я працую ўжо 28 гадоў, толькі адзін раз сустрэлася з сапраўдным прыкладам добрасумленнасці. Пра гэты выпадак я не забуду да самай смерці! Было гэта многа гадоў назад. Тады яшчэ на выпускных экзаменах у сельскіх школах пісалі сачыненне па рускай літаратуры. Як цяпер памятаю, той вучань (назавем яго Анатолем) пісаў сачыненне пра Кутузава. У іх сям'і перад гэтым здарылася вялікае гора — загінула сястра Анатоля. Нам, членам камісіі, было яго вельмі шкада. Сачыненне ён напісаў нядрэнна, але ў мэтах падстрахоўкі мы вырашылі дазволіць (хаця парушалі ўсе правілы інструкцыі) яму перапісаць яшчэ лепш. Анатоль быў кандыдатам на сярэбраны медаль. Мы лічылі сябе добрымі, міласэрнымі, але атрымалі ад гэтага хлопчыка ўрок на ўсё жыццё.

Ён сказаў: "На што напісаў, тое і стаўце, а то я вас перастану паважаць!.

* * *

У чым жа наша бяда? Чаму тысячагоддзі людзі б'юцца над галоўнай праблемай: "Як з чалавека зрабіць чалавека?" Алена Падрубная ў сваім праекце прасочвае аспекты сістэмы навучання, пачынаючы з сярэдніх вякоў. Тыя ж праблемы былі, што і сёння. Многія лічаць, што чалавека можна навучыць, і ён ужо будзе маральным. А мне ўспамінаецца такое выказванне (не ведаю, хто гэта сказаў): "Учёных много, а умных мало, знакомых много, а друзей нет!" Ніколі адукаванасць не можа прыроўнівацца да добразычлівасці! Зараз шмат гаворыцца пра розныя тэхналогіі, якія могуць даць адказ на пытанне "Як даць суму ведаў", але ні адна з іх не адказвае, як сфарміраваць чалавека маральнага. А ў мяне гэта пытанне стаіць на першым месцы! Як выхаваць вучняў высокамаральнымі? Як выхаваць такімі сваіх родных дзяцей? Як самой такой стаць?! Хвалююць, як я бачу, праблемы гэтыя і маіх калег Нэлі Чыкінову і Алу Ткачанкову (нарыс "Хто ставіць на навуку — ставіць на перамогу"). А мне так і хочацца запярэчыць, хаця з многімі думкамі артыкула я і згодна, акрамя, хіба, загалоўка ды некаторых дэталяў. А я сваё выступленне на з'ездзе назвала б так: "Хто ставіць на духоўнасць — ставіць на перамогу".

Ведаеце, у чым памылка наша? Мы адвяргаем галоўны стандарт, лепшы за які чалавек так і не прыдумаў. Гэты стандарт — Запаведзі Божыя, на якіх павінна грунтавацца любая чалавечая справа.

Мы лічым сябе хрысціянамі, гаворым, што верым у Бога. Але давайце самі сабе прызнаемся, як мы выконваем Божыя запаведзі.

Ды мы іх парушаем на кожным кроку. Адбіваем паклоны і тут жа асуджаем бліжняга, тым жа языком славім Бога і "нясем" на суседа. Будуем храмы, а сябе не перабудоўваем. Вучым другіх, распрацоўваем праекты, рэформы, прыдумваем розныя тэхнічныя сродкі, а жорсткасць узрастае, узрастае бязладдзе, адзінота. Краевугольным каменем усёй адукацыі павінна быць міласэрнасць, якая вырастае на духоўнасці. Ці кожны раз мы працягваем руку дапамогі, ці кожны раз, чуючы крыкі аб дапамозе, праяўляем міласэрнасць? Аб гэтым няхай кожны падумае, пачынаючы ад настаўніка і канчаючы міністрам.

А праверце банкаўскі рахунак, які быў дадзены ў "Настаўніцкай газеце" пад рубрыкай "Дапамажыце ў бядзе!" Ці многа настаўнікаў адгукнулася на гэты крык?! Затое мы крычым пра новыя тэхналогіі, пра навацыі. А падумайце, як было б добра, каб усё навучанне ў школе пачыналася з работы над сабой. Вучань да таго часу не змог бы перайсці ў наступны клас, калі, напрыклад, не перастаў бы хлусіць або гаварыць дрэнныя словы...

Аднойчы В.Стражаў параўнаў рэформу школы з вялікім караблём. А мне чамусьці і наша школа, і наша краіна, і ўвесь свет напамінаюць вялікі карабель "Тытанік", які ідзе на дно. Але выратавацца можна. Праўда, толькі пры адной умове. І яна простая. Аб гэтым сказаў наш галоўны Настаўнік і Заканатворца: "Итак, всякого, кто слушает слова Мои сии и исполняет их, уподоблю мужу благоразумному, который построил дом свой на камне; И пошёл дождь, и разлились реки, и подули ветры, и устремились на дом тот; и он упал, потому что был основан на камне. А всякий, кто слушает слова Мои сии исполняет их, уподобится человеку безрассудному, который построил дом на песке; И пошёл дождь, и разлились реки, и подули ветры, и налегли на дом тот; и он упал, и было падение великое".

І калі мы выканаем гэтую запаведзь, то наступіць зямны рай. Галіна Дрокіна піша, што любая рэформа будзе асуджана на правал, калі не будуць вырашаны пытанні далёкай будучыні — назапашванне інтэлектуальнага патэнцыялу. А мне хочацца дабавіць, што любая рэформа будзе асуджана на правал, калі не будзе яна будавацца на фундаменце хрысціянскай веры.

**Ніна ГРЫЦУК,**
**настаўніца рускай мовы і літаратуры Брашэвіцкай школы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці.**

Чытач разважае

## Амаль усё вырашае старт

***Для бацькоў, чые дзеці ў верасні павінны ўпершыню сесці за школьныя парты, наспеў час для сур'ёзных разважанняў і рашэнняў.***

Сёння выбар школы ці нават класа, у якім будзе вучыцца дзіця, — справа няпростая. Адкрыццё гімназій, ліцэяў, а таксама стварэнне ў звычайных школах класаў з паглыбленым вывучэннем пэўных прадметаў выклікае свайго роду ажыятаж. У такіх умовах зрабіць правільны выбар вельмі цяжка, бо па сутнасці бацькі выбіраюць будучае свайму дзіцяці. Таму зразумелымі становяцца бацькоўскія сумненні, і нават нейкі жах апаноўвае іх напярэдадні першага навучальнага года. Акрамя гэтага канец дашкольнага дзяцінства і пачатак школьнага навучання рэзка мяняюць жыццё дзіцяці: людзі пачынаюць па-новаму ацэньваць усё, што робіць дзіця, узнікае столькі нязвыклых абавязкаў і патрабаванняў, якія не адразу ўдаецца прыняць і зразумець. Усё гэта вымушае бацькоў з усёй адказнасцю і сур'ёзнасцю паставіцца да выбару школы для свайго дзіцяці.

Для большасці бацькоў галоўным пры выбары школы аказваецца яе месцазнаходжанне. Таму многія аддаюць перавагу школе, што побач з домам. У такім падыходзе — відавочная карысць для дзіцяці. Яму не давядзецца доўга дабірацца да школы і траціць на дарогу час, які можна скарыстаць для гульняў і паўнацэннага адпачынку.

Бацькам жа, якія пры выбары школы арыентуюцца на яе прэстыжнасць, трэба ўлічыць, што час на дарогу да школы з'яўляецца дадатковай нагрузкай для дзіцяці, а не адпачынкам. У такой сітуацыі, хутчэй за ўсё, давядзецца адмовіцца ад дадатковых заняткаў, гурткоў па інтарэсах і факультатываў, каб нагрузкі не пашкодзілі здароўю дзіцяці.

Пры выбары школы таксама важна загадзя даведацца, наколькі напружаны вучэбны план яна прапануе. Нават калі бацькі плануюць, што ў будучым дзіця будзе вучыцца ў гімназіі ці ліцэі, гэта не павінна быць падставай для вывучэння паліталогіі ці эканомікі з першага класа. Вучэбны план павінен адпавядаць узроставым асаблівасцям і магчымасцям дзяцей. Усякага роду нагрузкі будуць садзейнічаць толькі пагаршэнню здароўя.

Да таго ж, сістэматычнае стамленне ў школе можа стаць прычынай нежадання дзіцяці вучыцца, страты цікавасці да вывучэння асобных прадметаў альбо да вучобы ўвогуле. Таму тут дарэчы будзе нагадаць залатое правіла: усё добра ў меру.

Напэўна, многія бацькі пажадаюць, каб іх дзіця вучылася ў звычайнай школе, але ў класе з паглыбленым вывучэннем таго ці іншага прадмета. Як не памыліцца і правільна вызначыць, да якіх навук больш схільнае дзіця? Бо няма ніякай гарантыі, што праз год-два не давядзецца пераводзіць дзіця ў іншы клас. А гэта, зразумела, не лепшым чынам паўплывае як на самаадчуванне маленькага школьніка, так і на яго паспяховасць. Правільна будзе спачатку наведаць разам з дзіцем школьнага псіхолага. І толькі потым, улічыўшы ўсе яго парады, а таксама жаданне будучага школьніка, абраць клас з тым ці іншым ухілам.

Часам бацькам здаецца, што іх дзіця павінна паспець і дасягнуць у гэтым жыцці больш, чым яны. Дарослыя накіроўваюць усе свае намаганні, каб даць дзецям як мага больш. Яны адчуваюць сябе клапатлівымі бацькамі, якія ахвяруюць сабой дзеля будучыні сына ці дачкі. Але ж на справе аказваецца, што імкненне максімальна напоўніць галовы дзетак разнастайнымі ведамі, выпусціць іх, як кажуць, у жыццё з вялікім запасам, наносіць ім шкоду як маральную, так і фізічную. Справа ў тым, што пачатак вучобы — вельмі складаны перыяд, і галоўнае — не пераацаніць магчымасці пачаткоўца. Не трэба адначасова пачынаць заняткі ў агульнаадукацыйнай, музычнай і мастацкай школах. У дзіцяці павінен быць час, каб пагуляць, пасядзець дома ў цішыні, пабегаць з сябрамі на вуліцы. Гэта проста неабходна пачынаючаму вучню, які яшчэ толькі прывыкае да распарадку.

Магчыма, для некаторых бацькоў можа стаць адкрыццём той факт, што сёння існуюць школы з рознымі адукацыйнымі сістэмамі, такімі, як Вальдорфская школа, школа Марыі Мантэсоры, школа Зайцава. У іх усё не так, як у звычайных школах, — і ў афармленні класа, і ў арганізацыі навучальнага працэсу, а таксама ў падборы падручнікаў і дапаможнікаў, і, што самае галоўнае, — у стасунках паміж настаўнікам і вучнем. Навучанне ў такіх школах ажыццяўляецца новымі метадамі і сродкамі. Ва ўсіх падобных школах ці класах — сур'ёзны індывідуальны падыход да дзіцяці. Праграму вучань можа засвойваць у індывідуальным тэмпе. Але ж перш чым прывесці дзіця ў школу ці ў клас з нетрадыцыйнай сістэмай навучання, неабходна як мага больш даведацца пра яе. Як правіла, у такіх школах пры арганізацыі цэласнага навучальнага працэсу мяркуецца актыўная дапамога бацькоў. Яны павінны быць гатовы працягваць традыцыі школы дома, выкарыстоўваць тыя метады выхавання і навучання дзіцяці, што і настаўніца. Прыхільнікі нетрадыцыйных сістэм навучання лічаць, што толькі пры ўмове цеснага супрацоўніцтва настаўніка і бацькоў можна дасягнуць поспехаў у выхаванні і навучанні дзяцей.

У наш час з'яўляецца ўсё больш прыватных школ, навучанне ў якіх платнае. І трэба адзначыць, што знаходзіцца нямала бацькоў, якія гатовы плаціць грошы за наяўнасць у школе басейна, добрай сталовай, шыкоўнай спартыўнай залы, класаў з еўрарамонтам і моднай мэбляй. Зразумела, каму з нас не хочацца, каб дзіця засвойвала школьную праграму і развівалася ў добрых умовах, каб у класе было не 30 — 35 вучняў, а 10 — 12, каб харчаванне было паўнацэнным. Менавіта ўсё гэта, ды і не толькі гэта, прапануюць у прыватных школах з прыгожымі і гучнымі назвамі. Але ж бацькі павінны памятаць, што асноўнае прызначэнне школы — даць веды, сфарміраваць уменні і навыкі, падрыхтаваць дзіця да самастойнага жыцця. Таму нават калі ёсць магчымасць плаціць за адукацыю дзяцей у самай шыкоўнай і "дарагой" школе, трэба вельмі сур'ёзна падысці да выбару той ці іншай прыватнай установы. Як мінімум неабходна праверыць, ці мае школа ліцэнзію на адукацыйную дзейнасць, а таксама статут. Пры гэтым не залішне будзе звярнуць увагу на тое, ці з'яўляецца гэты дакумент галоўным у рэгуляванні адносін бацькоў і дзяцей са школай.

У рэшце рэшт можна выбраць самую прэстыжную ці вельмі знакамітую і дарагую школу, але так і застацца незадаволеным. Увесь сакрэт у тым, што лёс вучня ў многім залежыць не ад школы ўвогуле, а ад адной яе настаўніцы. Школа можа працаваць па самых прэстыжных методыках, але калі не пашанцавала з першай настаўніцай, усё гэта не будзе мець ніякага значэння. Нават у самай звычайнай раённай школе можна трапіць да добрай настаўніцы, пасля якой вучыцца да заканчэння школы будзе лёгка і прыемна. Многае залежыць ад старту і ад чалавека, які дае гэты старт. Словам, шукайце добрую настаўніцу. Гэта і стане зарукай паспяховасці дзіцяці ў школе.

**Лада МАЙСКАЯ.**

"Круглы стол"

## Усё пачынаецца з усмешкі

***Стан здароўя нашых дзяцей пагаршаецца з кожным годам. Што можна і трэба зрабіць, каб запаволіць гэты працэс? І ці толькі школа вінаватая ў тым, што рэдка які выпускнік выходзіць з яе сцен абсалютна здаровым?***

Гэтыя пытанні абмяркоўваліся журналістамі на пасяджэнні круглага стала "Аналіз здароўя беларускіх дзяцей і праблемы рэфармавання адукацыйнай сістэмы". У ім прынялі ўдзел міністр адукацыі Васіль Іванавіч Стражаў і начальнік аддзела аховы мацярынства і дзяцінства Міністэрства аховы здароўя Лідзія Іванаўна Матуш. Адразу зазначу, што дыялог атрымаўся вельмі канструктыўным — звычайна медыкі і педагогі абвінавачваюць адзін аднаго ў дрэнным здароўі дзяцей.

Васіль Стражаў адзначыў, што школа ні ў якім выпадку не здымае з сябе адказнасці за здароўе дзяцей. Але шмат што залежыць і ад бацькоў, і ад ладу жыцця, заняткаў спортам. Як гэта ні сумна, сярод першакласнікаў-шасцігодак не маюць ніякіх праблем са здароўем 25 — 30 працэнтаў дзяцей. Таму вялікае значэнне мае ранняе выяўленне паталогіі. На гэта накіраваны намаганні і медыкаў, і работнікаў дзіцячых дашкольных устаноў.

Але сярод школьнікаў малодшых класаў прыкладна ў палове выпадкаў сустракаюцца так званыя функцыянальныя парушэнні. І праблема заключаецца ў тым, каб не дапусціць ператварэння гэтых парушэнняў у хранічную паталогію. Таму зараз і ствараюцца адпаведныя ўмовы — праз год два будзе ліквідавана другая змена, у сталіцы адкрываюцца пачатковыя школы, больш часу ў вучэбных праграмах адводзіцца фізічнаму выхаванню.

Большасць бацькоў марыць сёння пра тое, каб дзеці вучыліся ў ліцэях і гімназіях. І мала хто з іх задумваецца над тым, што тыя вучэбныя нагрузкі, якія чакаюць іх дзяцей, цяжка вытрымаць нават чалавеку з выдатным здароўем. Далёка не кожная ўстанова новага тыпу мае добры стадыён, спартыўную залу, басейн.

Ды ўвогуле і самі дзеці, асабліва гарадскія, вядуць маларухомы лад жыцця, гадзінамі глядзяць тэлевізар, празмерна захапляюцца камп'ютэрам.

Патрабуе вырашэння і такая праблема, як забеспячэнне школ сучаснай мэбляй, асвятляльнымі прыборамі, камп'ютэрамі апошняй мадыфікацыі. Дарэчы, як адзначыў Васіль Стражаў, нават за мяжой не ўсе школы маюць сучаснае абсталяванне.

Як адзначыла Лідзія Матуш, у тым, што сёння шасцігодкі займаюцца ў дзіцячых садках, ёсць заслуга і медыкаў. Менавіта яны настойваюць на тым, каб малодшыя школьнікі вучыліся ў звычайных абставінах — тады больш лёгка ідзе працэс адаптацыі да школьнага жыцця. Медыкі супраць грувасткіх хатніх заданняў. І міністр адукацыі — таксама не супраць, але цяжка памяняць менталітэт выкладчыкаў, ды і пэўнай часткі бацькоў. (Увогуле, наколькі мне вядома, гэтая праблема — з "вялікай барадой").

Абмяркоўвалася на "круглым стале" і праблема адзнак. Дзесяцібальная сістэма, якая зараз праходзіць апрабацыю, здымае страх перад двойкай. Раней двойка ставілася і за 10 памылак у дыктанце, і за 25. Зараз нават невялікі крок да поспеху будзе ацэнены станоўчай адзнакай.

А яшчэ — што не менш важна — здароўю дзяцей спрыяюць і добразычлівыя адносіны, якія звычайна пачынаюцца з усмешкі. У школе, дома, сярод аднагодкаў. (Тады, магчыма, і не пацягнецца ў дзесяць гадоў рука да першай цыгарэты.)

**Ала ШАЎЦОВА.**

Лета–2001

## Адпачываюць і грошы зарабляюць

***У вучняў сталічных школ завяршаюцца летнія канікулы. На жаль, не кожны школьнік можа правесці іх за межамі краіны ці нават Мінска. Аддзелы адукацыі райвыканкамаў сталіцы ўзялі пад сваю апеку вучняў, не ахопленых арганізаваным адпачынкам.***

На працягу лета працуюць аздараўленчыя летнікі і клубы па месцы жыхарства. У іх вучні, што засталіся ў Мінску, прыемна бавяць час і нават зарабляюць грошы.

Напрыклад, у Ленінскім раёне ў аздараўленчых летніках, створаных пры школах, адпчылі ўжо 2057 дзяўчынак і хлопчыкаў. У летніку "Сонейка" (сярэдняя школа № 55) за адзін месяц паспелі паправіць здароўе 260 вучняў — не толькі "мясцовых", але і з іншых школ горада. Пачалася ўжо трэцяя змена ў "Вясёлцы" — летніку для дзяцей з малазабяспечаных сем'яў. Другі месяц працуе выязны летнік "Світанак". Зараз там адпачывае каля 40 падлеткаў. У мінулым месяцы ў вёсцы Аколіца быў адкрыты ваенна-спартыўны летнік для "праблемных" старшакласнікаў.

Для падлеткаў, якім патрабуецца індывідуальная ўвага, створаны брыгады другаснай занятасці. У іх вучні працуюць па чатыры гадзіны ў дзень — у бібліятэках, на прышкольных участках, дапамагаюць рамантаваць кабінеты і школьную мэблю. І атрымліваюць зарплату.

Дзейнічае шэраг клубаў па месцы жыхарства: "Брыганціна", "Маяк", "Вясёлка", "Сябры".

Школьнікам прапанаваны самыя розныя мерапрыемствы. Гэта экскурсіі ў музей Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальны мастацкі музей, экалагічныя гульні-віктарыны ў Лошыцкім парку, конкурсы кампазіцый з прыроднага матэрыялу, супрацьпажарныя віктарыны, спаборніцтвы з элементамі пажарнага спорту. Словам, ёсць з чаго выбіраць.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Рэкамендацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь аб правядзенні мерапрыемстваў з вучнямі агульнаадукацыйных навучальных устаноў і іх бацькамі ў рамках "Тыдня ведаў" 1-7 верасня 2001 года

Міністэрства адукацыі лічыць мэтазгодным правесці ў рамках "Тыдня ведаў" 1-7 верасня 2001 года з вучнямі агульнаадукацыйных навучальных устаноў наступныя мерапрыемствы:

**— у Дзень ведаў 1 верасня — адзіны ўрок па тэме, вызначанай педагагічным калектывам навучальнай установы;**

**— вывучэнне асноўных палажэнняў Канвенцыі аб правах дзіцяці, Закона Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці";**

— гутаркі аб ролі ведаў у жыцці чалавека, іх пераўтваральнай сіле ў адносінах паміж людзьмі і народамі, у змяненні духоўнага і матэрыяльнага свету;

— гутаркі аб шляхах і накірунках удасканалення і развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі ў першым дзесяцігоддзі XXI стагоддзя;

— гутаркі аб традыцыях навучальнай установы, яе выпускніках, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё эканомікі, навукі і культуры Беларусі;

— сустрэчы з вядомымі людзьмі роднага краю, ветэранамі вайны і працы, прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі, творчай інтэлігенцыі;

— ушанаванне пераможцаў прадметных алімпіяд, інтэлектуальных і творчых конкурсаў і турніраў, спартыўных спаборніцтваў;

— арганізацыю выстаў і экспазіцый творчых работ вучняў і іх бацькоў, настаўнікаў, работнікаў мясцовых прадпрыемстваў і ўстаноў;

— прагляд кінафільмаў аб гісторыі і жыцці краіны;

— наведванне музеяў, галерэй, выстаў і інш.

У гэты ж перыяд неабходна правесці **бацькоўскія сходы, сустрэчы педагагічнага калектыву з бацькамі,** на якіх праінфармаваць іх аб развіцці нацыянальнай сістэмы адукацыі, аб мерах, якія прымаюцца органамі дзяржаўнага кіравання па забеспячэнні роўнага доступу да адукацыі, па рэалізацыі прынцыпу сацыяльнай справядлівасці, удасканаленні вучэбна-выхаваўчага працэсу ў навучальных установах.

Пры правядзенні гутарак з вучнямі, бацькоўскіх сходаў, сустрэч педагагічнага калектыву з бацькамі рэкамендуецца выкарыстаць падрыхтаваныя Міністэрствам адукацыі матэрыялы **"Адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь на рубяжы стагоддзяў"**, апублікаваныя ў "Настаўніцкай газеце" 11 жніўня 2001 года.

**Дарагая наша і любімая Зінаіда Іванаўна РУДНІЦКАЯ з вёскі Маісееўка Светлагорскага раёна!**

Ад усяго сэрца віншуем цябе з юбілеем!

Шчасця табе і здароўя, дарагая, доўгіх і бязвоблачных дзён! Гаворачы словамі паэта, гадоў да ста расці ты без старасці! А мы цябе любім і ганарымся табой.

***Дзеці Андрэй і Наташа, унук Алёша з Расон.***

Абласны экалагічны летнік добраахвотнай працы моладзі “Адраджэнне”, створаны пры падтрымцы аблвыканкама Мінскім абкамам БПСМ, пачаў сваю работу на тэрыторыі Коласаўскага мемарыяльнага заказніка ў Стаўбцоўскім раёне. Удзельнікі летніка прыводзяць у парадак унікальныя аб’екты заказніка, больш дэталёва вывучаюць жыццё і творчасць класіка беларускай літаратуры. Для іх арганізуюцца лекцыі і гутаркі, розныя семінары і віктарыны, спартыўныя мерапрыемствы, пікнікі ля вогнішча, паказы фільмаў, слайд-вечарынкі, дыскапраграмы.

НА ЗДЫМКУ: першы сакратар абкама БПСМ Алена Скрыпко абмяркоўвае праграму мерапрыемстваў з удзельнікамі летніка.

Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА.

# Да ўвагі чытачоў!

Табліцу "Размеркаванне педагагічных кадраў па ўзроўні адукацыі", якая была надрукавана на трэцяй старонцы "Настаўніцкай газеты" ў № 90 — 91 ад 11 жніўня 2001 года ў матэрыялах Міністэрства адукацыі "Адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь на рубяжы стагоддзяў", трэба чытаць:

| | 1990-91 | 1992-93 | 1994-95 | 1996-97 | 1998-99 |
|---|---|---|---|---|---|
| Агульная сярэдняя | 4528 | 4059 | 4587 | 3902 | 3886 |
| Сярэдняя спецыяльная | 18612 | 19959 | 22234 | 22811 | 24191 |
| Незакончаная вышэйшая | 3515 | 3108 | 2415 | 1501 | 1178 |
| Вышэйшая | 101269 | 105275 | 111263 | 116020 | 119901 |

У табліцы на трэцяй старонцы "Настаўніцкай газеты" ў № 74" ад 5 ліпеня 2001 года трэба чытаць: "Вывучэнне замежнай мовы ў школах з 12-гадовым тэрмінам навучання ў чацвёртых класах — 3 гадзіны.

# У дапамогу настаўніку ў выдавецтве “Тэхналогія” выйшлі:

**Олимпиады по географии. Задания 1991 — 2000 гг.:** Пособие для учителей/ В.С.Аношко, М.Н.Брилевский, Н.Н.Ганущенко. — 179 с.: ил. Арыенціровачны кошт — 2900 руб.

У дапаможніку змешчаны заданні рэспубліканскіх і абласных алімпіяд па геаграфіі, што праходзілі на Беларусі за дзесяцігадовы перыяд, а таксама заданні замежных і міжнародных геаграфічных алімпіяд. Пададзены пытанні тэарэтычнага тура; тэставыя заданні, матэрыял па займальнай геаграфіі, заданні практычнага тура.

Для настаўнікаў геаграфіі, навучэнцаў школ, гімназій, ліцэяў і тых, хто паглыблена вывучае геаграфію.

**Уроки физической культуры в школе:** Пособие для учителей/ Под ред. В.А.Баркова. — 240 с. Арыенціровачны кошт — 3500 руб.

У дапаможніку змешчаны арыгінальны навучальны матэрыял, які можна эфектыўна выкарыстоўваць на ўроках фізічнай культуры ў залежнасці ад магчымасцей школы. Разглядаюцца сучасныя падыходы ў дачыненні да зместу ўрокаў і тэхналогій навучання, кантролю за тэарэтычнай, фізічнай і тэхнічнай падрыхтаванасцю вучняў.

Прыдасца настаўнікам фізічнай культуры, настаўнікам пачатковых класаў, навучэнцам і студэнтам фізкультурных навучальных устаноў.

**Н.ГАНУШЧАНКА,**
**кіраўнік сектара выкладання грамадазнаўчых дысцыплін Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.**

# В помощь руководителю методического объединения школы

В 2001-2002 году продолжается переход на новое содержание языкового и литературного образования в 10 классе в рамках 11-летней общеобразовательной школы; в новом учебном году учителя-словесники в 4 классе примут выпускников начальной школы, обучавшихся по III модели. Возникнет много вопросов по содержанию предметных областей, по методике преподавания русского языка и литературы, по формам организации познавательной деятельности учащихся. Но не менее важным направлением реформируемой школы является овладение языковедами новыми образовательными технологиями. Предлагаемая тематика занятий методического объединения является рекомендательной. Количество вопросов, выносимых на обсуждение, можно сократить либо рассмотреть более подробно, провести не одно, а несколько заседаний методического объединения.

## План работы методического объединения учителей русского языка и литературы на 2001-2002 учебный год

**Тема** “Активизация познавательной деятельности учащихся на основе внедрения образовательных технологий в учебный процесс”

**Цель:** Совершенствование профессиональной компетентности учителя-словесника, развитие его творческого потенциала.

**Задачи:**

1. Повышение эффективности уроков русского языка и литературы путем внедрения в учебный процесс современных образовательных технологий.
2. Формирование умений решать учебные и педагогические задачи средствами своего предмета.
3. Выработка потребности в рефлексии, само- и взаимокоррекции деятельности; преодолении стереотипов в подходах к организации учебного процесса.
4. Изучение опыта творчески работающих учителей.

### 1 занятие

**Тема:** Пути повышения эффективности уроков русского языка

**Форма** проведения: методическая гостиная.

Возможные направления выступлений:

— диагностика обучаемости и обученности;

— система своевременного тематического учета знаний и умений школьников (традиционный и инновационный подходы);

— выявление пробелов в знаниях учащихся, определение причин и путей их упреждения и ликвидации;

— соотнесение результатов обучения с выбором методов и приемов;

— организация проведения работы над ошибками (возможно проведение открытого урока).

Домашнее задание: познакомиться с содержанием книги П.И.Третьякова, И.Б.Сенковского “Технология модульного обучения в школе”, М. “Новая школа”, 1992; М., “Владос”, 2001.

### 2 занятие

**Тема:** Природосообразные формы организации познавательной деятельности учащихся

**Форма проведения: тренинг**

Возможные направления деятельности:

— диагностика обученности (результаты рубежных контрольных работ);

— фронтальная и индивидуальная формы учебной деятельности;

— парная и групповая формы учебной деятельности;

— моделирование фрагментов урока;

— ролевая игра.

**Домашнее задание:** разработать конспекты урока, модульные программы урока по организации самостоятельной работы учащихся на разных этапах урока.

### 3-4 занятие

**Тема:** Организация самостоятельной работы учащихся на уроках русского языка и литературы

Возможные направления деятельности на 3 занятии:

— самоанализ и анализ конспектов уроков, модульных программ, разноуровневых заданий;

— построение педагогической мастерской по русскому языку или литературе.

**4 занятие** — панорама открытых уроков

1. Использование технологии КСО на уроке русского языка (литературы)
2. Технология уровневого обучения на уроках русского языка
3. Внедрение модульной технологии в учебный процесс
4. Французская педмастерская как средство раскрытия творческого потенциала ребенка.

**Зинаида БУЛАХОВА,**
**заместитель начальника управления учебно-методической работы АПО.**

Тэхналогія і методыка калектыўнага выхавання

# Не даніна педагагічнай модзе

***Тэхналогія калектыўнай творчай дзейнасці, заснаваная педагогам-даследчыкам І.П.Івановым, мае больш як 30-гадовую складаную і супярэчлівую гісторыю, але больш актуальнай стала яна ў апошняе дзесяцігоддзе.***

Здаецца, усё проста і зразумела: калектыўная — сумесная дзейнасць педагога і выхавальніка; творчая — не па шаблону і стандарту, а нетрадыцыйная; дзейнасць — значыць у аснове разнастайнасць і змена відаў дзейнасці ў педагагічным працэсе, дзейсны падыход да яго арганізацыі.

Але, здаецца, на практыцы гэта і не так проста. Калі ўсе сучасныя тэхналогіі “бачаць” вучня як суб’екта, то дадзеная тэхналогія мае сваёй перадумовай два суб’екты: педагога і выхавальніка. У гэтым выпадку разам плануем, арганізуем, здзяйсняем, аналізуем і рэфлексуем сумесную творчую дзейнасць. Я заўсёды выкарыстоўваю тэхналогію КТД у пазаўрочнай рабоце, бо менавіта пазаўрочная работа дае магчымасць для самарэалізацыі і самавыяўленню асобы, раскрывае ўвесь яе творчы патэнцыял. Тэхналогія КТД у калектыўных формах работы дазваляе рэалізаваць прынцып індывідуалізацыі выхавання, дапамагае стаць педагогу кіраўніком-каардынатарам, ператварыць традыцыйную аўтарскую педагогіку ў дзейнасць і больш бязбольна перабудаваць вучэбны працэс, рэгламентаваны вучэбнымі планамі і праграмамі. Пазаўрочную дзейнасць у гэтым выпадку можна разглядаць як прастору павышэння творчага патэнцыялу асобы (у першую чаргу педагога), рэалізацыі яе сацыяльнай актыўнасці.

Задача педагога — стварэнне атмасферы садружнасці, сяброўскага ўзаемадзеяння, радаснага чакання, аптымальнага маральна-псіхалагічнага клімату. Я выкарыстоўваю наступныя прынцыпы калектыўнай творчай дзейнасці: усё тое, што для дзяцей — толькі рукамі дзяцей; калі нецікава — дык навошта; свабодны ўваход і свабодны выхад; дзейнасць на карысць і радасць людзям.

Канцэптуальнымі палажэннямі калектыўнага творчага выхавання з’яўляюцца наступныя аспекты: дыялог усіх узнікаючых пунктаў погляду; павага асобы дзіцяці, яго унікальнай пазіцыі ў свеце; сацыяльная накіраванасць дзейнасці; калектыўная дзейнасць як сродак стварэння магутнага творчага поля; выкарыстанне феномена групавога ўплыву на індывідуальныя здольнасці асобы; стварэнне ўмоў для праяўлення і фарміравання асноўных рыс творчай дзейнасці.

Матывам дзейнасці вучняў у КТД з’яўляецца імкненне іх да самасцвярджэння. Шырока выкарыстоўваецца гульня, спаборніцтва. Але ні ў якім выпадку нельга распальваць саперніцтва паміж мікракалектывамі; неабходна заўважаць, падтрымліваць парасткі сапраўднага сяброўства, узаемадапамогі, настойлівасці ў здзяйсненні задуманага, ацэньваць выкананне даручэнняў як бескарысны клопат пра сяброў, як радасныя сюрпрызы для ўсяго калектыву, для людзей, якія побач, усяляк заахвочваць узаеміны, супрацоўніцтва дзяцей, высока ацэньваць і развіваць узаемадапамогу мікракалектываў, перыядычна абмяркоўваць усім калектывам вопыт выканання спраў-даручэнняў. Параўнанне, аналіз, ацэнка асабістага вопыту — выдатны настаўнік.

Па тэхналогіі КТД могуць арганізоўвацца і праводзіцца ўрокі, святы, конкурсы. Найбольш яркі прыклад калектыўных творчых спраў — традыцыйныя каляндарна-абрадавыя святы, якія з’яўляюцца часткай непасрэднага жыцця іх удзельнікаў, а не проста тэатралізаваным прадстаўленнем ці рытуальным дзеяннем. Па тэхналогіі КТД могуць быць арганізаваны фестывалі, акцыі, гасцёўні, прэзентацыі, прэс-канферэнцыі, круглыя сталы і інш. Я выкарыстоўваю гэтую методыку пры падрыхтоўцы тэматычных вечарын, гістарычных гасцёўняў, конкурсных праграм. Іх правядзенню папярэднічае вялікая падрыхтоўчая работа: гутаркі, экскурсіі, выпускі насценгазет, сустрэчы з цікавымі людзьмі, наведванне бібліятэк, афармiцельская работа.

Педагог заўсёды стварае новыя формы групавой дзейнасці вучняў, часта не заўважаючы гэтага і не ўсведамляючы таго, што ён — у пастаянным творчым напружанні. Ён пераўтварае формы работы то ў дэталях, то ў сутнасці, а то — толькі ў абрамленні. З вялікай колькасці інавацый для сваёй работы я выбрала менавіта КТД. Я лічу, што ў гэтай тэхналогіі закладзены вялікі, яшчэ не раскрыты патэнцыял. Выкарыстоўваючы КТД ужо не адзін год, я прасачыла дынаміку творчага росту вучнёўскага калектыву. На пачатковым этапе работы вельмі важным для мяне было стварэнне таго псіхалагічнага клімату, станоўчага эмацыянальнага настрою, які дапамагаў бы згуртаваць калектыў. Я прасачыла дынаміку яднання калектыву: спачатку паявіліся добразычлівасць ва ўзаемінах і ўзаемныя сімпатыі, потым члены калектыву з павагай сталі ставіцца да меркавання адзін аднаго, у цяжкія хвіліны адбывалася эмацыянальнае яднанне калектыву, калі адзін — за ўсіх і ўсе — за аднаго. З цягам часу калектыў становіцца актыўным і поўным энергіі, потым сумесныя справы прыцягваюць усіх, паяўляецца вялікае жаданне працаваць актыўна, узрастае пачуццё гонару за сябе і сваіх таварышаў.

Аналізуючы работу па гэтай методыцы, я прыйшла да высновы, што менавіта дзякуючы выкарыстанню калектыўнай творчай дзейнасці захоўваецца задаволенасць выбарам прафесіі, павышаецца ўзровень самаацэнкі якасці асабістых ведаў, паяўляюцца неабмежаваныя магчымасці па рэалізацыі у навучальнай установе не толькі адукацыйных інтарэсаў, выпрацоўваецца перакананасць у неабходнасці пераацэнкі каштоўнасных арыентацый, удасканальваюцца сацыяльна-псіхалагічныя ўласцівасці асобы: калектывізм, гуманізм, камунікатыўнасць, пачуццё абавязку і інш., расце патрэба ў здзяйсненні творчых праектаў, накіраваных на тое, каб зрабіць акаляючы свет лепшым.

Я думаю, што методыка КТД — гэта не даніна педагагічнай модзе, гэта няспынны пошук ідэй, якія максімальна садзейнічаюць самавыяўленню, індывідуальнаму прасвятленню, ініцыіруюць духоўную энергію, фарміруюць адказнасць асобы за свае дзеянні, паводзіны і сваё жыццё.

**Іна БУРЛО,**
**выкладчык гісторыі Мінскага ВПВ гандлю.**

Канферэнцыі

# Чым жыве “Этнашкола”?

***Падчас правядзення абласной навукова-практычнай канферэнцыі “Інавацыі ў змесце і методыцы навучання і выхавання” працавала 9 секцый, дзе прадстаўлялі свой вопыт метадысты і кафедры ІПК, кіруючыя работнікі і спецыялісты адукацыйных устаноў Мінскай вобласці.***

НА АДНОЙ з секцый — “Сацыяльна-педагагічная інавацыя ”Этнашкола" мне давялося папрысутнічаць і быць сведкай цікавейшага відовішча, якое прадставілі тры школы Міншчыны: Сеніцкая сярэдняя школа (Мінскі раён), Дзямідавіцкая сярэдняя школа (Дзяржынскі раён), сярэдняя школа № 6 Вілейкі.

Названыя навучальныя ўстановы працуюць у рэжыме эксперымента па “Этнашколе”. Менавіта таму кіраўніком секцыі з’яўляўся кіраўнік рэспубліканскай эксперыментальнай пляцоўкі, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры — Ілья Іванавіч Сучкоў.

Школы прадставілі шыкоўныя выставы дзіцячай творчасці — вырабы з саломкі, керамічныя вырабы, выцінанкі, роспіс і разьбу па дрэве... У праграме паказу — відэапаказы, тэатральныя сцэнкі, канцэрт народнай песні і танца дзяцей, расповеды прадстаўнічых дэлегацый з Сеніцы, Дзямідавіч, Вілейкі...

У рабоце секцыі прынялі ўдзел вядомыя краязнаўцы, тыя, хто ведае мастацтва Беларусі, дызайн, культуру, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва іншых краін.

Слова Вілейскай пачатковай школе № 6... Ад відэаэкрана нельга адарваць позірк, бо прадстаўляецца цуд прыгажосці.

Святлана Уладзіміраўна Бяргаліна, намеснік дырэктара, выконваючы ролю экскурсавода, выдае столькі інфармацыі, што зала, як зачараваная, слухае пра тое, чым жыве вілейская “Этнашкола”.

Тут прыгажосць узведзена ў ранг вучэбнай дысцыпліны. Прытым не для выбраных, найбольш адораных ці падрыхтаваных дзяцей. Для ўсіх без выключэння, каго бацькі прыводзяць у падрыхтоўчы клас з надзеяй праз колькі часу заўважыць у іх індывідуальнасць, бо паглыбленае валоданне англійскай моваю або, скажам, матэматыкай з развіццём чалавека, як асобы, усё ж не заўсёды суадносіцца.

Імёны ж кожнага з выхаванцаў пачатковай школы №6, наадварот, змалку не бываюць зацёртымі дасягненнямі больш удачлівых ці напорыстых сябрукоў. Не шанцуе табе ў маляванні? Няма да гэтага цярпення? Не бяда, затое вунь як спрытна пстрыкаюць танюсенькія пальчыкі нажнічкамі ў гуртку выцінанкі, якім кіруе Алена Тадэвушаўна Паўлоўская. Вельмі просты і даступны матэрыял — каляровая папера, а накладзеныя адна на другую выразкі дазваляюць стварыць самыя разнастайныя сюжэты — ад казачных герояў да велічных сімвалаў Айчыны.

У гуртку “Чароўная іголачка” пад кіраўніцтвам Вольгі Іванаўны Шаблыка займаюцца як дзяўчынкі, так і хлопчыкі. Зараз яны не беспаспяхова вучацца мастацкай вышыўцы, але і ў самастойным дарослым жыцці, верыцца, не будуць хадзіць з расхлістаным каўняром з-за адарванага гузіка. І сябе, і сваіх дзяцей абслужыць здолеюць.

Карціны з пялёсткаў засушаных кветак і лісцейкаў, іншага натуральнага матэрыялу, прадстаўленыя ў раздзеле “Прырода і фантазія” (кіраўнік С.У.Бяргаліна і В.І.Шаблыка) — нікога не пакінулі раўнадушнымі. Больш таго, сталічныя госці, прызнаныя знатакі гэтага віду прыкладнога мастацтва, настойліва рэкамендавалі адміністрацыі пачатковай школы № 6 выдаць на іх аснове кнігу, якая можа стаць каштоўным і вельмі патрэбным вучэбным дапаможнікам у асваенні канцэпцыі выкарыстання этнакультуры непасрэдна ў вучэбным працэсе. Распрацоўшчыкамі гэтай канцэпцыі з’яўляецца дацэнт Беларускага інстытута культуры, кандыдат мастацтвазнаўства Ілья Іванавіч Сучкоў.

Выхаванцы школы гэтаму паслядоўна вучацца. У практыку вядзення любога ўрока ўключаюцца элементы фальклору. У 3 “А” мадэльным класе, напрыклад, разважаючы з настаўніцай Таццянай Пятроўнай Калядовай на тэму “Чалавек і сусвет”, дзеці пацвярджалі сваё разуменне выкладзенага матэрыялу вядомымі ім прымаўкамі і выслоўямі, праспявалі адпавядаючую тэме народную песню.

Вікторыя Канстанцінаўна Завадская урок-трэнінг па мастацтве вуснага слова пабудавала па фабуле знаёмства з укладам вясковага жыцця, дзе яе першакласнікі паказвалі, як мычыць кароўка, рохкае свінка, спявае салоўка і квакае жабка...

Урок роднай мовы з вучнямі падрыхтоўчага класа настаўніца Алена Андрэеўна Паўловіч ператварыла ў мініспектакль, на працягу якога хлопчыкі і дзяўчынкі прыгадвалі ўжо амаль пройдзеныя этапы.

З верасня 1997 года ў школе адкрыты мадэльныя класы эксперыментальнай педагагічнай пляцоўкі “Этнашкола”. Навуковае кіраўніцтва эксперыментам здзяйсняе кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускага універсітэта культуры І.І.Сучкоў. Разам са звычайнымі агульнаадукацыйнымі прадметамі вучні гэтых класаў займаюцца тэатральным, песенным і харэаграфічным фальклорам, народнымі рамёствамі, вучацца ігры на народных музычных інструментах (гармонік, скрыпка, дудка, цымбалы шумавыя інструменты, баян).

Вучні харэаграфічных класаў вывучаюць класічны і народна-сцэнічны, гісторыка-бытавы і сучасны бальны танец.

Агульнаэстэтычныя класы займаюцца выяўленчым мастацтвам і мастацкай працай, музыкай і танцам.

У праграмах мастацкіх класаў — адлюстраванне на плоскасці, лепка, мастацкая праца.

Прадугледжаны групавыя і індывідуальныя заняткі па прафілюючых прадметах. Ва ўсіх класах школы праводзяцца ўрокі “Асновы моўнай культуры”, “Здаровы лад жыцця”, заняткі па розных відах мастацтва.

З 1997 года ў школе працуе дзіцячае аб’яднанне “Жаўручок”, якое створана з мэтай выхавання станоўчых маральных якасцей дзяцей і актыўных адносін да жыцця.

Ідэя захавання, развіцця і перадачы нацыянальных традыцый праз школу існуе ад пачатку XX стагоддзя. Зразумела, што пасля таго, як Беларусь атрымала ў 1991 годзе незалежнасць, гэта ідэя набыла новы імпульс.

Заснаванне ў Сеніцкай школе ў 1991 годзе беларускага класа з эстэтычным ухілам, зместам якога планавалася вывучэнне фальклору і народных традыцый, было, безумоўна, з’явай адметнай, нягледзячы можа на кан’юнктурныя памкненні непасрэдных стваральнікаў. Цэлы шэраг прычын: зразумелая на пачатковым этапе недапрацаванасць вучэбных планаў, адсутнасць распрацаваных праграм, выкладчыкаў профільных прадметаў, матэрыяльнай базы, школьны кансерватызм ды яшчэ наяўнасць суб’ектыўных прычын, адразу паставілі гэты клас у неспрыяльныя ўмовы бытавання. І, напэўна, не было б зараз гаворкі пра этнашколу, калі б не тытанічная, самаахвярная праца настаўніцы пачатковых класаў Ф.І.Таранавай. Менавіта яна пабудавала прыступку лесвіцы, якая вяла да стварэння этнашколы. Трэба таксама з удзячнасцю ўспомніць і яе паплечнікаў, якія ў гэты час былі заўсёды побач: Л.У.Руту, музыканта Т.П.Жураўлёву, харэографа. Гэтыя творчыя, працавітыя людзі былі і застаюцца прыкладам для астатніх.

У ЭТНАШКОЛЕ працуе калектыў творчых, кваліфікаваных, адданых справе людзей. Праца зладжана і плённа. Сярод настаўнікаў профільных прадметаў 85 працэнтаў маюць вышэйшую адукацыю. Практычна ўсе, хто прыйшоў сюды працаваць з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, паступілі ў ВНУ. Пяць настаўнікаў з’яўляюцца аспірантамі ў навукова-даследчых і вышэйшых навучальных установах. Метадычная работа ў этнашколе вядзецца ў накірунку індывідуальнага павышэння кваліфікацыі, удасканалення прафесійных уменняў: штогодна настаўнікі павышаюць кваліфікацыйныя катэгорыі.

На пачатак 2002 года запланавана правядзенне навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай праблемам этнашколы, сумесна з ТБШ і факультэтам народнай культуры БДПУ імя М.Танка. Дапрацоўваюцца і рыхтуюцца да друку распрацаваныя нашымі настаўнікамі метадычныя матэрыялы — сцэнарыі каляндарных святаў, абрадаў, аўтарскія праграмы па большасці профільных прадметаў, па розных відах мастацкай працы.

Лічым, што вельмі важным накірункам нашай работы з’яўляецца асветніцкая дзейнасць. Штогод паказваем 5 — 6, а часам і больш мастацкіх праграм для навучэнцаў школ, калгаснікаў, удзельнікаў агульных бацькоўскіх сходаў, а таксама на навуковых канферэнцыях і семінарах. Менавіта такі паказ адбудзецца на Усебеларускай канферэнцыі настаўнікаў беларускай літаратуры: “Святло купалавага слова”, якая ладзіцца Дзяржаўным музеем Янкі Купалы і Міжнародным купалаўскім фондам. Ужо два гады ўдзельнічаем у калядных сустрэчах купалаўскіх школ, прычым у мінулым годзе гэты гонар меў 9-ы, выпускны клас, а сёлета — трэці. Традыцыйным стала ўжо калядаванне, калядуе звычайна 4-5 гурткоў, і не толькі ў Сеніцы, але і ў іншых бліжэйшых вёсках — Прылуках, Скарынічах, Ураджайнай.

Праца этнашколы адзначана граматамі раённага аддзела адукацыі, Міжнародным купалаўскім фондам . Дэпутацкая камісія, якая нядаўна наведала школу, у запісцы, адрасаванай міністру адукацыі, рэкамендавала распаўсюдзіць вопыт этнашколы па ўсёй краіне.

Такім чынам, нягледзячы на цяжкасці этнашкола ў Сеніцы працуе, жыве, дасканаліцца метадычна і творча, заваўвае ўсё больш моцныя пазіцыі.

Тым не менш цэлы шэраг праблемных пытанняў і праблем чакаюць свайго вырашэння, але ў многіх выпадках яны непадуладны нам.

Вельмі б хацелася мець лепшае матэрыяльнае забеспячэнне. Не лішнімі былі б касцюмы, музычныя інструменты, матэрыялы і абсталяванне для навучання рамёствам.

Але найбольш істотным з’яўляецца паважлівае стаўленне да беларускай мовы і традыцыйнай культуры.

Дзямідавіцкая школа Дзяржынскага раёна працуе над удасканаленнем урока як галоўнага сродку навучання і выхавання, павышэннем ролі вучнёўскіх арганізацый у жыцці школы, удасканаленнем форм пазакласнай выхаваўчай работы, над удасканаленнем форм дыферэнцыяванага навучання, улічваючы псіхалагічныя якасці вучняў.

Па жаданні вучняў уведзена профільнае навучанне па матэматыцы і біялогіі.

З верасня 1999 года ў школе адкрыты клас з выкарыстаннем эксперыментальнай праграмы “Этнашкола” з фальклорна-тэатральным ухілам. Навуковае кіраўніцтва эксперыментам здзяйсняе кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускага універсітэта культуры І.І.Сучкоў. Разам са звычайнымі агульнаадукацыйнымі прадметамі вучні гэтага класа займаюцца тэатральным, песенным і танцавальным фальклорам, мастацкімі рамёствамі. У класах праводзяцца ўрокі рытмікі, тэатральных гульняў.

Пры школе працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці і народнай творчасці: танцавальны, тэатральны (драматычны), вышывання і пляцення, выцінанкі, разьбы па дрэве.

Акрамя ўрокаў фізкультуры школа праводзіць заняткі спартыўных секцый, арганізуе спаборніцтвы, дні здароўя, спартландыі, паходы.

ПЫТАННЮ экалагічнага выхавання дзяцей ўдзяляецца шмат увагі. Працуюць гурткі “У гасцях у матулі Прыроды”, “Эколаг”, “Кветкавод”. Праводзяцца экалагічныя віктарыны, дыспуты.

Праца настаўнікаў накіравана на арганізацыю сацыяльна-значнай дзейнасці дзяцей, на выхаванне ў іх станоўчых маральных якасцей і актыўных адносін да жыцця.

Дзямідавіцкую сярэднюю школу прадстаўлялі Т.В.Лойка — намеснік загадчыка Дзяржынскага раённага аддзела адукацыі, В.В.Яшчук — дырэктар школы, С.М.Красенкова, В.А.Герман, В.Р.Грамыка, К.М.Буднік — педагогі Дзямідавіцкай сярэдняй школы.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст Мінскага абласнога ІПК.**

